З Новым годам, з новым шчасцем


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 1 (410) | ГОД IX | 5 СТУДЗЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


## СВЯТА СТАЛАСЦІ

1 студзеня г.г. споўнілася 45 год з таго дня, калі стварылася БССР — першая ў гісторыі беларуская дзяржава. Ці за гады свайго існавання Рэспубліка прайшла вялікі шлях? Давайце заглянем у мінулае. Да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь была адной з самых адсталых ускраін царскай Расіі. Прамысловасці амаль ніякай. Сельская гаспадарка ў заняпадзе. Малазямелле і бясхлебіца душылі вёску. «Тэхніка» ў сельскай гаспадарцы — саха, серп і цэп.

Беларускага мужыка зямельныя магнаты, абшарнікі і царскія чыноўнікі не лічылі чалавекам. Родная мова ў школах не выкладалася. Самастойнасць Беларусі? Развіццё нацыянальнай культуры? Аб гэтым і гутаркі быць не магло. Больш 80 працэнтаў насельніцтва было непісьменным. Ні адной вышэйшай навучальнай установы. Малярыя і сухоты — звычайныя спадарожнікі мужыка-беларуса. Адзін доктар на 10 тысяч чалавек! Тысячы і тысячы беларусаў пакідалі родны край, шукаючы працы і хлеба далёка за акіянам. У канцы XIX і пачатку XX стагоддзяў больш чым паўтара мільёна сыноў і дачок Беларусі нястача загнала на чужыну.

З перамогай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі пачалася новая эпоха, эпоха культурнай рэвалюцыі. Найважнейшым дасягненнем яе з'яўляецца тое, што яна падняла да актыўнай творчасці ўсіх беларусаў, вырвала іх з цемры

(Працяг на стар. 6).

**«Палесся чар — лясныя нетры, твань глухая». — так спявалася ў папулярнай перадваеннай песні. Прывабна? Так. Тады прапануем падарожжа ў будучыню гэтага цікавага кутка Беларусі. Правадніком для чытачоў «Нівы» згадзіўся быць вядомы беларускі пісьменнік Тарас Хадкевіч. На старонцы 6 чытайце яго артыкул «Мост паміж марамі».**



СВЯТОЧНАЯ НОЧ У МІНСКУ

## СТАРТАВАЯ




**(НАВАГОДНЯЕ ІНТЭРВ'Ю «НІВЫ» СА СТАРШЫНЁЙ ПРЭЗІДЫУМА ВАЯВОДСКАЙ РАДЫ НАРАДОВАЙ У БЕЛАСТОКУ СТЭФАНАМ ЖМІЙКО).**



**1964 год — дваццаты год пасляваеннага жыцця Беласточчыны. Якія найважнейшыя, на Вашу думку, дасягненні маюць за гэты час сяляне нашага ваяводства?**

Каб ацаніць усю велічнасць дасягненняў нашай народнай дзяржавы за апошнія 20 год, трэба было б вярнуцца ў думках да першых пасляваенных дзён і ўявіць сабе, ад чаго мы пачыналі.

Беластоцкая вёска ў перыяд санацыі прадстаўляла сабой карціну поўнай гаспадарчай і культурнай запушчанасці. Раздробленыя і ўбогія вёскі не маглі прымяняць ніякіх навейшых сродкаў апрацоўкі зямлі. Застой у прамысловасці стрымліваў адплыў з сельскай гаспадаркі маладых рук, якія неміласэрна эксплуатаваліся абшарнікамі і вясковымі багачамі.

У час вайны сельскай гаспадарцы Беласточчыны былі нанесены асабліва вялікія страты, якія аблічваліся на дзесяткі мільярдаў злотых. У 1944 годзе засталося незасеяна 300 000 гектараў зямлі, у тым ліку каля 150.000 га аблогаў. Значна абніжыліся ўраджаі і зменшылася пагалоўе жывёлы.

Аднаўленне разбуранай гаспадаркі народная ўлада пачала ад увядзення даўно чаканага сялянамі дэкрэту аб сельскагаспадарчай рэформе. Было падзелена паміж сялянамі ў 1944—46 гадах звыш 450 маёнткаў. Першым у Польшчы быў падзелены маёнтак Дабрынёўка ў Беластоцкім павеце. Каля 13 тысяч беззямельных сялянскіх сямей атрымала гаспадаркі, 10 тысяч карлікавых гаспадарак было павялічана. Дзесяткі тысяч сялянскіх сямей з перанаселеных вёсак пераехалі на вернутыя землі. на но-

(Працяг на стар. 4)

МІХАСЬ КАЛАЧЫНСКІ

### Яліна ў гасцях

Яліну ў госці запрасілі
Як прадстаўніцу ад лясоў,
Ад хвой-царыц, ядлоўцаў сініх,
Ад пахкіх смол і верасоў.

Лясной красуні абяцалі
Прыём з бенгальскім аганьком,
І весялосці шум, хоць самі
Шумок трымалі пад замком.

Яна ж любіла весні пошум
Сваіх равеснін і сясцёр.
Расяны звон, снягоў парошу
І водблескі пазнюткіх зор.

Хацела, каб на тых на званых
Гасцінах позна ўначы
Не галгатня гудзела п'яных,
А песні, з сэрца ідучы.

Прыйшла яліна, і заўсёды
На вечарах пад Новы год
Стаіць лясоў зялёных новых,
І смех, і жарты — на ўвесь рот.

З выпадку Калядных Сьвят
РЭДАКЦЫЯ шле
самыя сардэчныя пажаданні

# Літаратурная старонка

**ВІКТАР РУДЧЫК**




1.

Тры залпы, быццам маланкай, разрэзалі спрадвечную цішыню могілак. Іх рэха змяшалася з грукатам зямлі і каменняў, што сыпаліся на сасновыя, свежагабляваныя дошкі звычайнай труны.

— Бывай, бывай, Ванька! Бывай, Ванюшка!

Рэха паўтарала журботнае развітанне міліцыянераў са сваім таварышам.

Потым усе раз'ехаліся. Стала зноў ціха. Сумна шумеў вяковы лес і неяк трывожна крычалі гракі.

Засталася толькі яго маці. Ляжала побач... у заняпалай ад старасці магіле, пад звычайным драўляным крыжом.

2.

Гарачы попел прыпякаў босыя пяткі, але Ваня стаяў на месцы, быццам раптам прырос да зямлі, быццам не меў чатырнаццаці год. Шырока адкрытымі вачыма бяздумна блудзіў па пажарышчы, як бы нічога не бачыў. Толькі дзесьці ў глыбіні мозгу адна за адной сыпаліся іскры, спалучаліся разам і ўжо бушавала полымя, велізарнае полымя... Чырвона - жоўтымі языкамі страляла ў неба, чорным, едкім дымам паўзло ды скручвалася па зямлі... танцавала, бы віхар, енчыла, як чэрці на лысай гары. Урэшце ўвесь ён гарэў тым самым ашалелым полымем, якое чатыры дні таму паглынула... яго дом, хлявы, гумно і... матку, і старэйшага брата, і братаву жонку.

І вось на фоне чырвонага, крывавага неба, сярод бушуючага полымя ўздымаліся, плылі рукі... незвычайнай велічыні рукі... Ад гэтых рук звісаюць жылы і гінуць у агні, а кожная жыла — рака, пульсуючая жывой кроўю. Шырока растапыранымі пальцамі нервова грабуць гэтыя рукі і дым, і паветра, і агонь. Як бы літасці прасілі, як бы ратунку шукалі. Гэта ж рукі...

— Мама, мамачка, мама! — крычыць хлапчук так голасна, як толькі можа, і голас яго, здаецца, яшчэ мацней раздувае смяротнае полымя.

Раптам нейкі велікан у чорным мундзіры з чэрапам над казыркам задзертай уверх шапкі пахіляецца над ім, хапае яго за горла, а голас велікана прыглушае трэск агня.

— Eine verfluche Schwein — zum Feuer!

— Eine verfluche Schwein — zum Feuer!

Зямля ўцякае з-пад ног і Ваня ляціць у бездань...

— Забярыце яго! — крычыць нейкая жанчына. Падыходзіць бацька Юльян.

— Ваня, сыночак мой, сіратамі пакінулі нас гады... — хрыплым голасам гаворыць ды туліць сына да сэрца. Яго словы расплываюцца ў аднастайным лямантце жанчын.

Мужчыны моўчкі доўгімі віламі разгортваюць попел, адвальваюць недагарэўшыя бярвенні і беражліва дастаюць з пажарышча косці 5-ці асоб — яшчэ чатыры дні таму зусім здаровых.

3.

Хата Юльяна стаяла за вёскай пад самым лесам. Часта заходзілі туды партызаны.

Быў якраз святочны дзень. Юльян пачаставаў прыбыўшых партызан самагонкай. Стала весела.

Раптам раздаліся вінтовачныя і аўтаматныя выстралы, пачуліся гарклівыя галасы:

— Halt! Halt! Halt!

Партызаны выскачылі з хаты, прыпалі да вуглоў.

Юльян з малодшым сынам уцёк, схаваўся ў суседняй вёсцы. Здолеў толькі забраць з сабой унучку. Жонку, старэйшага сына і нявестку жандармы схапілі ў хаце пад лесам, прыгналі да іх яшчэ солтыса і нямога Ваську.

У вёсцы запахла кроўю.

4.

Сход гуртка Саюза барацьбы маладых закончыўся пазнавата, але Ваня не мог чакаць да ранку, каб аб'явіць бацьку сваю пастанову. Ён жа браў, як кажуць, лёс за рогі, распачынаў новае жыццё. Не мог тады чакаць.

Юльян памармытаў, пачмыхаў крыху і ўрэшце адазваўся:

— Ну, чаго табе?

— Запісваюся, тата, у міліцыю.

— Чаго?!

— У міліцыю запісваюся. На сходзе гаварылі, каб запісацца маладым.

Юльян урэшце цалкам апрытомнеў. Сеў на ложку, падрапаўся па грудзях і, звесіўшы галаву, доўга штосьці абмяркоўваў.

— А я думаў дом пачаць будаваць, гаспадаркай як след заняцца, — неяк сумна прагаварыў бацька.

— За нашых... за маму, Мікалая... За Вольгу... хачу...

— ...І жыць няма нам дзе... і ўнучку — маленства дагледзець неяк... Ажэнішся, думаў... — гаварыў Юльян, як бы думаў уголас, а словы яго былі цяжэйшыя ад жалеза, сумнейшыя ад смерці.

— Не турбуйся, тата! — весела і, як яму здавалася, пераканаўча адазваўся Ваня. — Будзе ў нас дзяржаўны, казённы дом. У горадзе! Такі, якога ў жыцці ты не бачыў, аб якім не марыў. Пабачыш! Жыццё, эх жыццё, тата, чакае нас! Толькі з бандытамі пакончыць...

Юльян асцярожна, быццам не хочучы, расцёр па шчацэ вялікую, цяжкую слязіну.

5.

У полі пахла рунеючым жытам.

«Будзе добры ўраджай, — падумаў капрал Янка Баран. — Хопіць людзям хлеба».

— І табе хопіць, — прагаварыў у голас, кіруючы вочы на тлумак, які трымаў на руках. У тлумку штосьці паварушылася.

— Чаго? — адазваўся возчык.

— Не да вас гавару, — адказаў капрал. — Паганяйце хутчэй, гаспадар! Так мы да вечара не дабярэмся ў камендатуру.

Возчык не вельмі ахвотна сцебануў каня.

— Ды і хацелася вам, капрал, такую дарогу ісці за нейкім там грэшным падкідышам...

Капрал Янка сурова бліснуў вачыма.

— Гэтакі наш абавязак... Праўда, малады грамадзянін Народнай Польшчы? — нахіліўся над тлумочкам, з якога выставаў пунсовы тварык дзіцяці. — Слухай, што табе скажу: маці твая і бацька твой — сволачы. Вось што!

Дзіця, быццам зразумела гэты суровы прысуд, расплакалася.

— Ну, нічога, нічога... — гойдаючы яго на руках, прыгаварваў капрал.

— Ну, супакойся! Чаго раз'ехаўся? Адправім цябе ў дзяцінец. Вырасцеш, вучыцца будзеш. Інжынерам нейкім станеш...

Не дакончыў слова. З жыта, што хвалямі пералівалася па абодвух баках дарогі, раздаўся выстрал і куля прасвісцела ля самага вуха. Паявіліся галовы бандытаў.

Капрал Янка Баран у момант кінуў у салому крыклівае дзіця, схапіў аўтамат і пусціў доўгую чаргу ім насустрач.

— Паганяй! — загадаў гаспадару.

Конь поўнай сілай ірвануў наперад і... зараз зваліўся на бок.

Янка адбіваўся без перапынку. Не чуў нават, што дзве бандыцкія кулі ўжо прабілі яму цела, не бачыў, што салома зафарбоўваецца яго кроўю. Урэшце аўтамат замоўк. У дысках не стала патронаў. Час лічыўся ў часцінах секунды...

Над жытам ізноў паявіліся галовы бандытаў. Яны скокамі набліжаліся да фуры, залiваючы яе безупынным агнём.

Янка схапіў гранату, вырваў зубамі кальцо ды падняўся на руку, каб узяць размах...

Раптам штосьці, бы маланка, бліснула яму перад вачыма... і ў адзін момант ізноў пацямнела...

Толькі хрыплы голас дзіцяці ўсё яшчэ прыглушаў рэха апошніх выстралаў. Яно хацела жыць.

6.

— Ну, будзьма здаровы, дзедку!

— На здароўе, дачушка! — адказаў Юльян, адным глытком асушваючы глыбокі кілішак. — Жадаю табе, мая ты ўнучанька, усяго найлепшага ў тваім жыцці.

— Горка, горка! — пачалі крычаць з усіх бакоў. Юльян моўчкі паставіў кілішак перад маладымі, адвярнуўся, зайшоў у камору, і абапершы сваю пасівелую галаву аб вушак, ледзь чутна заплакаў.

Хто яго ведае чаго ён плакаў: з радасці ці ад гора?

А вясельнікі гулялі яшчэ два дні.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## НІНКА

У руках Нінкі пахне язмін і кружыць галаву жар яе шчакі. Ты ідзеш з ёю побач і чырванееш перад знаёмымі, аж урэшце кажаш:

— Глянь, як упіўся наш Рыгор!?

Смяешся са спеву мужчын ля гасподы.

— Учора Рыгор біў жонку і сына.

Ты радасны і зусім не разумееш, што гаворыць табе яна. Доўга блукаеш з ёю ў цішы.

Над ранам зароў Рыгор:

— Горка рэдзька ды ядуць, ух-ха!

Кепска замужам ды йдуць, ха-ха-ха!!!

На дзверы завішчаў Рыгораў сынок.

— Баюся, — сказала Нінка.

Ты захацеў прытуліць яе, але яна адвярнулася.

— Баюся, — сказала яшчэ раз.

А па хатах нясецца ўжо розгалас, што жаніцца будзеш і вяселле на Яна павінна быць.



## ВАЙСКОВАМУ

Маці з бацькам старыя ад зімы не бачылі цябе, сынок. Прысядзь на зэдліку ля печы гарачай ды паталкуй з імі аб свеце шырокім, сынок. Няхай сабе восень вые пазавугеллю, а ты не хадзі нікуды, адпачні, сынок. Пасля свята зноў паедзеш на службу далёкую, дык дай нацешыцца табою, сынок.

Каб уцехі гэтай хапіла на год цэлы.

# ПАПАЎНЯЮЦЦА ПАЭЗІІ СТРОЙНЫЯ РАДКІ

Яшчэ не так даўно, у верасні, мы адзначалі выхад зборніка вершаў жменькі мясцовых паэтаў п. з. «Беластоцкі альманах». А вось ізноў прыемная нечаканасць — з асобнымі зборнікамі сваіх твораў выступілі **Тадэуш Сокал і Збігнеў Слёнчка.**

Т. Сокала мы, уласна кажучы, трошкі ўжо ведаем. У мінулым годзе ў №35 «Нівы» была змешчана падборка яго вершаў у перакладзе Рыгора Лясуна. У кароткай творчай біяграфіі паэта адзначалася тады, што Пазнаньскае выдавецтва рыхтуе яго зборнік п. з «Дарога да сябе». І вось сёння ляжыць перад намі гэты зборнік, якому хочам удзяліць увагу.

Першае сутыкненне з вершамі выклікае прыемнае ўражанне. Выразна адчуваецца тут ужо творчая сталасць аўтара, яго добрае валоданне мастацкімі сродкамі вобразнасці паэтычнага радка. На многіх творах Т. Сокала ляжыць выразны адпячатак асабістых, парою інтымных перажыванняў. Знойдзем тут трошкі любоўнай лірыкі — гэтай бадай што першакрыніцы кожнай паэтычнай творчасці. Аднак асабліва запамінаюцца вершы, у якіх аўтар велічае водную стыхію, велічае хараство прыроды. Відаць закаханы ён у ёй бязмежна:

Ды хадзіць бы сляпы я не здолеў
закахаўся ў рачное раздолле
загубіўся у лесе навек я
лісце рву і кладу на павекі.

(«Захапленне»)

У «Ніве», акрамя гэтага верша, знойдзем таксама беларускія пераклады твораў «Памост», «Адпачынак», «Апошні ліст», якія ўключаны ў зборнік «Дарога да сябе».

Моцна гучыць апошні твор Т. Сокала «Мае яўрэі» як водгук аўтара на іх пагром у ФРГ у 1956 г. Гэта не толькі пратэст супроць злачынства, але і шчырае, сардэчнае слова ў адрас сяброў - яўрэяў з незабыўных школьных год. Ды і наогул вершы Т. Сокала, умудронага жыццёвым, парою суровым вопытам, аддаюць непадкупнай чалавечнасцю, шчырасцю.

Усё, што людское, мне радня...

— вось словы з верша «Памост», якія, мабыць, найглыбей вызначаюць характар зборніка Тадэуша Сокала.

«Збліжэнні» — гэта загаловак зборнічка нізкі паэтычных твораў Збігнева Слёнчкі. Зборнік з'явіўся ў выданні Люблінскага выдавецтва. Аб творчых спробах паэта мы гаварылі ўжо пры нагодзе абмяркоўкі «Беластоцкага альманаху», дзе м. ін. знаходзіцца яго кароткая паэма п.з. «Тут ёсць маё месца», знамянальная любоўю да Беластока. У супрацьлегласці да зборніка Т. Сокала, які ў асноўным прытрымоўваецца традыцыйных канонаў паэзіі, З. Слёнчка адыходзіць ад іх, шукаючы арыгінальнасці ў форме і змесце, намагаючыся сказаць сваё слова. Трэба адзначыць, што таксама, як і ў «Беластоцкім альманаху», не заўсёды гэта аўтару ўдаецца. Надта ж часта прыбягае ён, мы б сказалі, к своеасаблівым кодам, якіх расшыфроўка мусіць толькі яму і вядома. Мы аднак пакрыўдзім паэта, калі не адзначым яго поспехаў. Вось прыпаў нам да спадобы твор «Пісьмо на расставанне», асабліва, апошняе — трэцяе пісьмо. Тут і сапраўдная паэтычная вобразнасць і шчырае, радаснае ўспрыняцце навакольнага свету. Выклікае ўражанне вобраз летняга дня, створаны паэтам у вершы «Дождж». У паасобных творах аўтара трывога за хараство прыроды, якую бязлітасна знішчаюць людзі. У вершах «У лесе» і «Непатрэбнае аб непатрэбным» выступае ён у абарону гэтага зямнога хараства, у запамінальных вобразах рысуе нам усю яго прывабнасць.

Вітаючы сёння два новыя зборнічкі вершаў беластоцкіх паэтаў Тадэуша Сокала і Збігнева Слёнчкі, хочацца пажадаць ім новых творчых поспехаў, новых вартасных, каштоўных твораў!

**М. КАНАПАЦКІ**

